ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 2 (149) 12 - 18 студзеня 1996 г. Кошт 800 рублёў

*ПАДАТКАВЫ "БЕСПРЕДЕЛ"* - ст. 3.

*ЗАХОПЛЕНЫЯ, АЛЕ НЯ СКОРАНЫЯ* - ст. 5.

*ТЭЛЕФОННАЯ СТАНЦЫЯ АД АДОЛЬФА ГІТЛЕРА* - ст. 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.*

## ПРЭЗІДЭНТ РАЗЗЛАВАНЫ, АЛЕ СЬПІКЕР АБРАНЫ

**У першы дзень сваёй працы Вярхоўны Савет выкінуў прэзідэнту «фартэль». Папярэдняе узгадненьне з лідарамі фракцый пра закрытасьць паседжаньня выявілася спрытным ходам парламантарыяў - разыграўся адваротны сцэнар. Нэрвовы псіхоз Лукашэнкі з гэтай прычыны, старанна схаваны ТБК, асьвятлілі расейскае і польскае тэлебачаньні.**

Рэч ў тым, што толькі яны і вялі здымкі ў Авальнай залі. Пасьля таго, як зранку 9 студзеня Аляксандр Лукашэнка не пагадзіўся з жаданьнем дэпутатаў самім вырашаць пытаньні асьвятленьня сваёй працы ў сродках масавай інфармацыі, па загаду старшыні падпарадкаванай Прэзідэнту Белтэлерадыёкампаніі Рыгора Кіселя з залы паседжаньняў вывезьлі ўсе тэлекамеры. З гэтай прычыны аказалася паралізаванай і праца парламанцкага прэсцэнтру.

Больш таго. Дзякуючы «пільнасьці» падпарадкаванага Прэзідэнту Галоўнага ўпраўленьня аховы грамадзкіх будынкаў, журналістаў, акрэдытаваных на сесію, не пускалі ў будынак Вярхоўнага Савету. Магчымасьць выканаць свой прафесійны абавязак яны атрымалі толькі пасьля таго, як дэпутаты прынялі на гэты конт сьпецыяльную пастанову.

А ў Авальнай залі пасьля шэрагу працэдурна-тэхнічных пытаньняў (дэпутатаў вучылі ціснуць на кнопкі) парламанцкі корпус прыступіў да абраньня «галавы». Насуперак прагнозам, колькасьць вылучэнцаў на пасаду сьпікера склала ўсяго 6 чалавек. Пад час выступаў прэтэндэнтаў зьняў сваю кандыдатуру былы прэм'ер Кебіч - Вячаславу Францавічу і так ёсьць чым заняцца. Раніцай наступнага дня рашэньне сваёй партыі выканаў сацыяліст Пётр Краўчанка, выказаўшыся на карысьць лідара аграрнікаў Сямёна Шарэцкага.

Абраньне другой асобы дзяржавы, апрача ўсяго, дазволіла атрымаць своеасаблівы палітычны зрэз вышэйшага заканадаўчага воргана. «Заходнік» Грыб атрымаў 18 галасоў, «рэфарматар-рыначнік» Багданкевіч - 38, «артадокс» Калякін - 50, «земляроб» Шарэцкі - 51.

Пасьля звароту Грыба і Багданкевіча да сваіх прыхільнікаў з заклікам падтрымаць Шарэцкага, другі тур ператварыўся ў простую фармальнасьць. Сабраўшы «ураджай» са 108 галасоў, віншаваньні прымаў стваральнік Аграрнай партыі. Між тым, для большасьці грамадзянаў краіны па вялікаму рахунку Сямён Шарэцкі застаецца пакуль «шэрым конікам». Цяпер у тых, хто цікавіцца палітыкай, будзе дастаткова часу для вызначэньня «айк'ю інтэлекта» і грамадзянскай пазіцыі доктара эканамічных навук, прафесара Шарэцкага. Чацьвёрты сьпікер у гісторыі суверэннай Беларусі мае багаты вопыт і гаспадараньня, і выкладаньня.

У 1954 годзе ён паступіў у Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію. Адначасова, яшчэ ў студэнцкія гады, яго выбралі спачатку намесьнікам , а потым і старшынём калгаса «Заря коммунизма» Навагрaдзкага раёну. У 29 гадоў Шарэцкага ўзнагародзілі ордэнам Леніна. У 1970-м ён скончыў Менскую Вышэйшую партыйную школу, застаўся ў ёй на выкладчыцкай працы, абараніў дысертацыю і 8 год быў кіраўніком кафедры эканомікі сельскай гаспадаркі. У 1984 годзе узначаліў калгас «Красное знамя» у Валожынскім раёне. У 1992 годзе стварыў і ўзначаліў Аграрную партыю. Зьяўляўся саветнікам па аграрных пытаньнях старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча.

Ці здолее ён кансалідаваць «стракатых» дэпутатаў - пакажа час. Але ўжо зараз відавочна, што выбар на карысьць Сямёна Шарэцкага ёсьць ня самым горшым варыянтам разьвіцьця падзей.

**Уладзімір МАЙНІЧ.**

## У ГОРАДНІ ЗЬВЯЛІ ГАЛАНДЗКІЯ «ЦЮЛЬПАНЫ»!

10 сьнежня, у першай гульні фінальнай падгрупы Кубка ўладальнікаў Кубкаў эўрапейскіх краін сапраўдны падарунак усім аматарам спорту Беларусі зрабілі валейбалісты гарадзенскага «Камунальніка».

Воляй лёсу, першым сапернікам нашай каманды стаў адзін з мацнейшых клубаў Галандыі - «Альком-Капэльле». У яго складзе гуляюць два гульцы нацыянальнай зборнай, якая сёньня лічыцца адной з мацнейшых у сьвеце, а таксама два амерыканскія легіянеры - Куін і Сэленджэр.

У першай партыі менавіта дзякуючы ім, асабліва алімпійскаму чэмпіёну 1984 году, 40-гадоваму пасуючаму Сэленджэру, «Альком» змагаўся амаль ачко ў ачко. Да таго ж, сем памылак пры ўласных падачах зрабілі «камунальнікі». І тым ня менш, першая партыя за намі - 15:11.

*(Працяг на стар. 8)*

## АДНОЙ РУКОЙ ДАЮЦЬ - ДРУГОЙ ЗАБІРАЮЦЬ

**Як і чакалася, павышэньне мінімальнай заробнай платы з Новага году да 100 тысячаў рублёў прывяло да росту цэнаў.**

Так, згодна з тэлеграмай Міністэрства сельскагаспадарчай прадукцыі ад 30 сьнежня 1995 году, у вобласьці з 3 студзеня на 7% вырасьлі закупачныя цэны на малако. З 10 студзеня гэтая лічба павялічылася да 13 працэнтаў. У гэты ж дзень на 11% павысіліся цэны на закупку ялавічыны. У бліжэйшыя дні адпаведна падаражэюць гэтыя прадукты і ў крамах.

**В.М.**

## ПРЭЗІДЭНЦКІ АЎТОГРАФ - У КОЖНУЮ ХАТУ

На гарадзенскім вытворчым аб'яднаньні «Хваля» выпушчаныя два пробныя экзэмпляры новага радыёпрыёмніка з аўтографамі Аляксандра Лукашэнкі. Адзін з іх быў дасланы прэзідэнту і вельмі яму спадабаўся. Ня выключана, што ў хуткім часе на «Хвалі» будзе наладжаны серыйны выпуск такіх прыёмнікаў.

**В.М.**

## ПАДПІСАЦЦА НА «ПАГОНЮ» ЯШЧЭ НЯ ПОЗНА

Паважаныя сябры! Падпіска на першае паўгоддзе 1996 году скончылася, але, калі Вы па якіх-небудзь прычынах ня здолелі своечасова аформіць яе на «ПАГОНЮ», у аддзяленьнях сувязі па месцы жыхарства можна гэта зрабіць на наступныя месяцы.

У лютым продаж «ПАГОНІ» у кіёсках будзе рэзка абмежаваны, а ў сакавіку ўвогуле прыпынены (за выключэньнем Гарадзеншчыны).

Нагадваем Вам, што кошт падпіскі на «ПАГОНЮ» на 5 месяцаў складае 40 тысячаў рублёў. Наш падпісны індэкс - 63124.

## УГЛЕДЗЬЦЕСЯ, ХТО ПАЙШОЎ

**На гэтым тыдні Аляксандр Мілінкевіч, які працуе намесьнікам старшыні гарадзенскага гарвыканкаму, напісаў заяву аб звальненьні з займаемай пасады па ўласным жаданьні. Па атрыманай «ПАГОНЯЙ» інфармацыі, заява задаволена і ўжо з панядзелка спадар Мілінкевіч пакідае кабінет у гарадзенскім «Белым Доме».**

Відавочна, што Мілінкевіч шмат каму муляў вочы. Дастаткова ўспомніць ранейшыя неаднаразовыя спробы «камуністычна-ветэранскага актыву» ставіць ультыматум кіраўніцтву горада і вобласьці, з мэтай «зваліць» Мілінкевіча. Асабліва актывізаваліся гэтыя людзі апошнім часам...

З адыходам Аляксандра Мілінкевіча, на нашую думку, гарадзенская ўлада шмат губляе. Прысутнасьць гэтага чалавека ва ўладзе надавала ёй дастаткова выразнае інтэлігентнае аблічча, дэмакратычны імідж...

**Ул.інф.**

## «ГЭТЫ ГОД БУДЗЕ... ЛЕПШЫМ!»

**Па асноўных эканамічных паказчыках мінулага году Гарадзеншчына апярэдзіла іншыя вобласьці нашай краіны. Чым не нагода да размовы з начальнікам аддзела вытворчасьці і прадпрыймальніцкай дзейнасьці аблвыканкаму спадарыняй Кавальчук.**

***- Валянціна Васільеўна, якім быў для эканомікі вобласьці мінулы год?***

- Гэта быў год вялікіх праблемаў: спыняліся заводы, не было сыравіны, людзям не давалі зарплату. Усе гэтыя праблемы прыходзілася вырашаць дырэктарам прадпрыемстваў і аблвыканкаму. З другой паловы года тэмпы спаду вытворчасьці зьменшыліся. У параўнаньні з мінулагоднімі дадзенымі, гэты паказчык склаў 97,1%. Разам з тым, лясгасы, прадпрыемствы харчовай прамысловасьці, лікёра-гарэлачныя заводы на працягу ўсяго года свае паказчыкі паляпшалі. Апошнім часам нядрэнна запрацавалі «Азот», «Хімвалакно», Лідзкі завод электравырабаў і завод «Лакафарба», гарадзенскі шклозавод «Нёман». Па асноўных эканамічных паказчыках мы апярэдзілі ўсе астатнія вобласьці краіны.

***- Аднымі з самых гарачых кропак на эканамічнай карце вобласьці былі ў мінулым годзе тонкасуконнае аб'яднаньне і «Сузор'е». Як там ідуць справы сёньня?***

- На абодвух прадпрыемствах калектывы выказалі недавер кіраўнікам прадпрыемстваў. Увогуле ж, за мінулы год дырэктарскі корпус у вобласьці абнавіўся амаль на 14%, на кіруючыя пасады прыйшлі маладыя, здольныя людзі. Разам з тым, я ўсё ж такі супраць таго, каб кіраўнікі прадпрыемстваў абіраліся ці здымаліся працоўнымі калектывамі...

***- Ці азначае гэта, што і сп.Балоцін (дырэктар фабрыкі мастацкіх вырабаў «Сузор'е»), і сп.Лубянько (дырэктар тонкасуконнага аб'яднаньня) насуперак волі калектыву ўсё ж павінны застацца на сваіх пасадах?***

- Не магу сказаць гэтага пра Балоціна, а вось пра Лубянько - так. У яго ёсьць усе якасьці, каб граматна кіраваць прадпрыемствам.

***- ...Якое трымаецца на «плыву», дзякуючы дапамозе аблвыканкаму?***

- Так, мы шмат дапамагаем ТСА. Вось і зараз, дзякуючы ў многім нам, праца там аднавілася. А як не дапамагчы, калі там працуе столькі людзей, прычым у асноўным - жанчын?

***- Але ж калі з кішэні грошы толькі выцягваць, не кладучы ўзамен нічога, то можна і самому «прагарэць». Ці ёсьць перспектыва ў такіх буйных прадпрыемстваў?***

- Калі казаць пра ТСА, то, думаю, ёсьць. Тканіна заўжды будзе патрэбная. Калі яшчэ паралельна наладзіць выпуск іншай прадукцыі, пераабсталяваць вытворчасьць - справы пойдуць на лад.

***- Шмат што сёньня залежыць ад пошуку рынкаў збыту прадукцыі. Якія зрухі ў мінулым годзе адбыліся вобласьці?***

- Мы пачалі актыўна ўдзельнічаць у разнастайных кірмашах, дзе прадукцыю нашых прадпрыемстваў абменьваем на тавары, якіх у нас не хапае - мы ня можам забясьпечыць пакуль сябе ўсім неабходным.

Пачаўся абмен інфармацыяй з іншымі рэгіёнамі аб нашых прадпрыемствах, іх прадукцыі. Такім чынам, шукаем патэнцыяльных партнёраў. І, трэба сказаць, атрымліваецца.

Іншымі шляхамі заваёвы рынкаў збыту зьяўляюцца зьніжэньне коштаў на ўласную прадукцыю, як гэта зрабіла «Хімвалакно», адкрыцьцё ўласных крамаў на прадпрыемствах і г.д.

***- Эканамічную сітуацыю маглі б палепшыць замежныя інвестыцыі. Што зроблена кіраўніцтвам вобласьці ў гэтым напрамку?***

- У нас створаныя 134 сумесныя прадпрыемствы. Аднак толькі лічаныя адзінкі займаюцца вытворчасьцю. Каля 80 працэнтаў СП заснаваныя польскімі бізнесмэнамі. У асноўным - няўдачнікамі на польскім рынку, якія спадзяюцца атрымаць імгненныя грошы, выпускаючы кетчупы ды вермішэль на прывезеным старым абсталяваньні. Ды толькі ў нас і сваіх кетчупаў зараз дастаткова. Салідных інвестараў жа палохае, напэўна, нестабільнасьць у Беларусі.

***- Якія надзеі Вы ўскладаеце на Новы, 1996 год?***

- Спадзяюся, што гэты год будзе ўсё ж лепшым за мінулыя. Падставы для аптымізму ў мяне асабіста, у дырэктароў прадпрыемстваў вобласьці ёсьць. Калі яшчэ новы Вярхоўны Савет прыме шэраг вельмі неабходных сёньня законаў - жыць будзем лепш!

**Гутарыў Вітаўт РУДНІК.**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## «СТОРОННИКИ КЛАССИЧЕСКОГО ПАСКВИЛЯНСТВА»,

### Альбо трэцяе аддзяленьне універсітэту

**Адной з характэрных рысаў савецкага грамадзтва заўсёды была сістэма паклёпніцтва і стукацтва. Псіхолагі сьцьвярджаюць, што на пэўным этапе патрэба даносіць і «закладваць» для чалавека робіцца амаль фізічнай неабходнасьцю. І тады пасквілянцтва становіцца «асноўным інстынктам».**

У свой час вучоны Барыс Барыхін займаўся лазарнай фізікай, але як толькі ў Гарадзенскім універсітэце пачалі прабівацца парасткі нацыянальнага, шаноўны прафесар адчуў пакліканьне да барацьбы з уяўным нацыяналізмам. Сьпецыяліст у галіне дакладных навукаў рашуча пераключыўся на гуманітарныя пытаньні, а ўлюбёным накірункам сваёй новай "творчасьці" абраў эпісталярны жанр. Нагадаем, што паралельна па ініцыятыве Барыхіна было створана «Очищение» - арганізацыя для змаганьня з «карупцыяй»! Барыхін і кампанія літаральна закідвалі розныя прэзідэнцкія і міністэрскія інстанцыі лістамі, у якіх грамілі нацыяналізм, што «расквітнеў» ва ўніверсітэце махровым цветам. Вынікам пісаніны «радетелей» сталіся ажно тры праверкі ўстановы рознымі камісіямі. Так, у верасьні-кастрычніку 1994 году рэвізій займалася камісія Гарадзенскага кіраваньня Службы кантролю адміністрацыі прэзідэнта пад кіраўніцтвам небезьвядомай Н.Талай. Былі знойдзены парушэньні рознага ўзроўню сур'ёзнасьці, але нацыяналізму так і ня выявілі. Сапраўды, цяжка адшукаць чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва, калі яе там няма. Але прафесар Барыхін, відаць, не чытаў Канфуцыя. Ён, увогуле, больш любіць пісаць.

1 сьнежня мінулага году ў газеце савецка-беларускіх камуністаў «Товарищ» зьяўляецца чарговы барыхінскі опус пад назвай «Непотопляемый Кивач». На гэты раз рэктару, акрамя «внедрения в ГрГУ националистической модели», інкрымінуецца «перевод университета на лакейское положение атлантической демократии». Сябе шаноўны «ачышчэнец» сьціпла залічвае ў лагер «сторонников классического университетского образования». Рэдакцыйны каментар цалкам ухваляе «постановку вопроса», падкрэсьліваючы, што «гродненский университет рассматривается в качестве центра западно-белорусского региона, который находится под сильным польским политическим и религиозным прессом и к которому проявляют повышенное внимание американские сьпециалисты». А вы, наіўныя, меркавалі, што «халодная вайна» скончылася!

Шкада, што таварыш Барыхін не гаворыць усёй горкай праўды, ён зусім забыўся, што універсітэт носіць імя зласьлівага нацыяналіста Янкі Купалы. Патрэбны і сустрэчныя прапановы - чаму, напрыклад, не разьмясьціць у вучэбных карпусах бюсты граф'ёў Суворава, Мураўёва ды іншых «сторонников классического поучания».

15 сьнежня на старонках таго ж выданьня пад дэтэктыўным загалоўкам «Тем, к кому это относится» друкуецца яшчэ адзін прыкметны допіс. Колькасьць аўтараў-падпісантаў на гэты раз складае ажно 27 чалавек. Шаноўныя доктары і кандыдаты навук выкрываюць ужо цэлую падпольную арганізацыю. Начале яе - навуковы супрацоўнік універсітэту Мінесота Барыс Клейн (былы прафесар ГрГУ) і прафесар Дзьмітры Караў. Пільныя выратавальнікі абнародваюць «сакрэтны» цыркуляр рэктара Ківача пад зыходным нумарам 40 (саракавы - ракавы, - відаць, і лічбу змоўшчыкі абралі невыпадкова). Жах ахоплівае пры ўяўленьні, як доктар Клейн з-за акіяна нібы гіганцкі спрут сваімі шчупальцамі аплёў увесь няшчасны купалаўскі універсітэт. Правадніком яго разбуральных ідэяў зьяўляецца рэктар, ну а прафесар Караў - злы геній-выканаўца. Карацей, класічная мафіёзная піраміда. «Не все понимают, что здесь на нашей земле не перевелось ещё иудино племя, готовое за чечевичную похлёбку служить любому Богу во имя «Згоды», - папераджальна засьцерагаюць аўтары ліста. Шкада, што газету «Товарищ» чытае малая колькасьць люду. Краіна павінна ведаць сваіх герояў! Сярод падпісантаў прафесары А.ВАСКАБОЕЎ, А.БАРЫХІН, А.БУРЫКАЎ, С.МІНЮК, В.ЧАРАПІЦА, загадчык кафедры тэорыі функцый (цікава, якіх?) Я.РОЎБА.

І вось гэта ўжо ня сьмешна. Адна рэч, калі падобнымі допісамі бавяцца экзальтаваныя славянасабораўцы, адстаўнікі-афіцэры, для якіх кожны дзень - ідэалагічная вайна, іншая справа - прафесары буйной навучальнай установы, якая прэтэндуе стаць сур'ёзнай акадэмічнай. Ад ліста «Тем, к кому это относится» патыхае ўзорным даносам-паклёпам часоў таварыша Жданава. Недарэчнасьць абвінавачваньняў у тым, што астракізму падвяргаюцца якраз навукоўцы чысьцейшай вады, што ў адрозьненьне ад падпісантаў ніколі аніякай палітычнай дзейнасьцю не займаліся. Прадмет жа асуджэньня - сумесная навуковая праграма ў рамках комплекснага беларуска-амерыканскага дасьледаваньня ролі і перспектываў нашай краіны ў сьвеце.

Прозьвішчы аўтараў ліста не выклікаюць зьдзіўленьня. Некаторыя з іх спрактыкаваліся яшчэ ў цкаваньні прафесара Ткачова, падобныя артыкулы яны друкавалі нават тады, калі хворы Ткачоў ляжаў у шпіталі. І яшчэ цікавая асаблівасьць. Большасьць з вышэйзгаданых асобаў у недалёкім мінулым займалі ва ўніверсітэце значныя адміністрацыйныя пасады. Воляй часу яны апынуліся адсунутымі на другі план. Але ж як хочацца «двигаться дальше». І тут ужо можна ня грэбаваць сродкамі. Што ж, кожны наталяе свае амбіцыі па-свойму. Адны абіраюць карпеньне ў бібліятэках, архівах ці лабараторыях, іншыя займаюцца палітыканскімі інтрыгамі ды калянавуковым цэрберствам. А гісторыя ўжо растаўляе ўсіх па сваіх месцах.

**Рыгор ВАСТРАШАБЕЛЬСКІ.**

## «ПРАШУ ЛІЧЫЦЬ МОЙ ГОЛАС НЕСАПРАЎДНЫМ»

**Асоба Генадзя Скарадумава ў Горадні даволі вядомая. Асабліва ў сувязі з актыўнай падтрымкай тады яшчэ кандыдата ў Прэзідэнты А.Лукашэнкі, працай у руху «Очищение». Выйікі гэтай працы гавораць самі за сябе: подпісаў у падтрымку Лукашэнкі ў Горадні было сабрана нават больш, чым за Пазьняка, Аляксандр Рыгоравіч стаў прэзідэнтам, а Скарадумаў, як член ініцыятыўнай групы, атрымаў «Благодарственное письмо» ад яго...**

Потым былі тры лісты ўжо ад Скарадумава да Лукашэнкі. У першым Генадзь Гаўрылавіч мякка падказваў «усенароднаабранаму» што і як трэба рабіць, каб стаць сапраўдным народным прэзідэнтам. У другім -нагадваў свайму куміру пра яго абяцаньні. А ў трэцім - «типа того, что и критиковать начал».

Ні на водзін ліст Скарадумаў адказу не атрымаў. І не таму, што лісты не дайшлі да Менску. Якраз наадварот. Адтуль прыехаў тады яшчэ саратнік Аляксандра Рыгоравіча спадар Ул.Нісьцюк, і «очищенцы», даведаўшыся ад яго, што іх калега крытыкуе прэзідэнта, дружна «вычысьцілі» Скарадумава з «Очищения». Маўляў, ня месца крытыкану ў руху «в поддержку Лукашенко».

Мінуў час. Сярод паплечнікаў Лукашэнкі ўжо няма Ул.Нісьцюка, ды й само «Очищение» ледзь дыхае на ладан - абсалютная большасьць яго членаў паўтарыла эвалюцыю Скарадумава. Але падобна на тое, што Аляксандра Рыгоравіча гэта ўжо мала абыходзіць...

- Вось гэта больш за ўсё мяне і хвалюе, - прыйшоўшы ў рэдакцыю «ПАГОНІ», казаў Скарадумаў. - Я зразумеў, што свае абяцаньні , на якія «клюнула» так шмат людзей, Лукашэнка нават і не зьбіраўся выконваць. У яго былі і ёсьць зусім іншыя мэты.

«Я считаю избрание президента А.Г.Лукашенко нелегитимным или незаконным на основании того, что гражданин Лукашенко умышленно не выполнил обещаний, которые он давал нам, своим избирателям, что является умышленным обманом или мошенничеством с целью захвата власти и нанесения ущерба экономике Беларуси, а так же нанесения морального ущерба гражданам,.. которые в результате его большого обмана потеряли веру в людей. Я считаю, что право лгать народу не дано никому, в том числе и президенту, которого я лично уже президентом не считаю и отзываю свой голос, отданный за А.Г.Лукашенко.

Прошу... считать мой голос, отданный за А.Г.Лукашенко, недействительным».

Гэта радкі з Заявы, якую Скарадумаў 3 студзеня накіраваў у Цэнтрвыбаркам. Ён не чакае адтуль адказу. Цяпер ён хоча аднаго: каб тыя людзі, якіх ён у свой час зьбіў з панталыку, зрабілі сёньня тое ж самае, што і ён. А другой трыбуны, каб абнародаваць сваю пазіцыю, акрамя «ПАГОНІ», Скарадумаў ня бачыць.

Сёньня над ім, і над сотнямі тысяч такіх, як ён, можна пасьмяяцца, можна пакпіць. Але не да сьмеху...

Госпадзі! Калі ж мы перастанем быць разумнымі задним числом?!!

**Мікола ТУРАВЕЦ.**

## КАШТОЎНАСЬЦЬ ЛЕНІНА ПАД ПЫТАНЬНЕМ

**Суд над Віктарам Федасевічам ды Ігарам Струнеўскім, якія ў ноч з 7 на 8 верасьня 1995 году кувалдай разьбілі «галаву» помніка Леніну, каля чыгуначнага вакзалу г.Ліды, 9 студзеня зноў адкладзены.**

Першае паседжаньне суда, што адбывалася 4 сьнежня 1995 году, было прыпынена ў сувязі з запытам пракурора, які пажадаў высьветліць мастацкую каштоўнасьць разбуранага помніка. Аднак, адказ, які дасланы суду Дзяржаўнай інсьпекцыяй па ахове гістарычна-культурнай спадчыны, на гэты раз выклікаў хадайніцтва адваката Ул.Кісялевіча аб правядзеньні экспертызы, якая б дала канкрэтны адказ на пытаньне: ці адпавядае помнік неабходным крытэрыям для наданьня яму статусу гісторыка-культурнай каштоўнасьці?

Аказваецца, гэты помнік ня ўнесены ў Дзяржаўны сьпіс гісторыка-культурных каштоўнасьцяў Рэспублікі Беларусь. Тое, што яго нехта лічыць такім, ня мае ніякага дачыненьня да закону.

Высьветлілася таксама, што гэтая ўродлівая гіпсавая карыкатура на правадыра пралетарыяту ня мае таксама і гаспадара. Лідзкая ЖКГ, якая ўзяла ў свой час 350 тысяч рублёў, мусіць вярнуць грошы спадарам Федасевічу ды Струнеўскаму.

І сапраўды, як можна браць грошы за тое, што табе не належыць?

**Ул.інф.**

## ПРАТЭСТ НЕ АДБУДЗЕЦЦА

Сход працоўнага калектыву завода «Лідсельмаш» абраў дэлегацыю, якая паедзе ў Менск для ўдзелу ў акцыі пратэсту прамысловай краіны. Адміністрацыя завода гатова нават аўтобус дзеля гэтага выдзяліць.

Аднак, высьветлілася, што акцыі ня будзе. Кіраўніцтва прафсаюзаў дамовілася з Прэзідэнтам пра тое, што жыцьцё стане лепшым.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## НАШ ДАРАГІ АЛЯКСАНДР РЫГОРАВІЧ...

**У сувязі з тым, што на Беларусі ва ўсіх афіцыйных сродках масавай інфармацыі ушчаты алярм «у абарону і падтрымку» прэзідэнта, то, як у час вялікай паводкі, пачалі стварацца камітэты (пакуль што яшчэ не «оперативные штабы») падтрымкі. А сталічны аргкамітэт усіх камітэтаў вылучыў кандыдатуру Аляксандра Лукашэнкі на конкурс «Вядучы палітык году». «ПАГОНЯ» ня можа заставацца ў баку ад гэтага ўсенароднага руху.**

Мы таксама ахвяруем частку газетнай плошчы для таго, каб нашыя чытачы маглі ўсебакова прааналізаваць дзейнасьць «Вядучага палітыка». На жаль, у прапанове аргкамітэту падтрымкі, сьціпла не ўдакладняецца, ці гэта вядучы і лепшы палітык толькі на Беларусі, ці ва ўсім сьвеце. Таму мы вырашылі самі, што нам лепш абмяжавацца сябе тэмай Палітыка года толькі на Беларусі.

Праўда, ёсьць небясьпека, што абмеркаваньне гэтага пытаньня скоціцца толькі да размовы пра хлеб надзённы і памеры мінімальнага заробку працоўных або мінімальнай пенсіі цывільных пенсіянераў. У сувязі з гэтым, прапануем раскрываць постаць вялікага палітыка планава, па важнейшым граням яго таленту. Вось прыблізны пералік гэтых граняў.

**а) А.Р.Лукашэнка - геапалітык.** Па радыё паведамілі, што камуністы Беларусі адзначылі ўгодкі кубінскай рэвалюцыі. Гэта не выключае далейшых захадаў па стварэньні восі Гавана-Менск-Пхеньян на базе рыначнага сацыялізму. Наведала ж адміністрацыя прэзідэнта Ірак, а там кіруе партыя арабскага сацыялістычнага адраджэньня на чале з Садамам Хусейнам. Чым не сатэліт да восі? А там, глядзіш, далучацца і больш дробныя сацыялістычныя дзяржаўкі Трапічнай Афрыкі;

**б) А.Р.Лукашэнка - эканаміст.** Тут чытачу суфлёр не патрэбны;

**в) А.Р.Лукашэнка - юрыст.** Яго бліскучыя перамогі над Канстытуцыйным Судом гавораць самі за сябе. Чытачу трэба толькі трошкі разабрацца ў юрыдычных навацыях шматлікіх указаў прэзідэнта.

**г) А.Р.Лукашэнка - фінансіст.** Кансультацыі па гэтым пытаньні можна атрымаць у камерцыйных банках, інвестфондах, а таксама ва ўласных жонак (для тых, хто сам у краму ня ходзіць). Не пашкодзіць падлічыць, колькі разоў залезла ў кішэню чытача адміністрацыя ў пошуках грошай для пазабюджэтных фондаў прэзідэнта;

**д) А.Р.Лукашэнка - панславист** (православный, хотя и в атеистическом исполнении). Кансультацыі лепш за ўсё папрасіць у Алексія II (Масква) і яго экзарха Філарэта (Менск);

**е) А.Р.Лукашэнка - гісторык.** Асабліва сьпецыялізуецца на тым, што датычыць «тысячелетней истории Руси». Па гісторыі Беларусі мы пакуль што чулі адну рэпліку прэзідэнта: пра «господина Льва Сапегу» з яго фондам;

**ж) А.Р.Лукашэнка - аэранаўт.** «О приключении под Березой» лепш не ўспамінаць. Далейшыя планы ў паветраплаваньні, магчыма, ведае генерал Мальцаў;

**з) А.Р.Лукашэнка - геральдыст.** Тут з кансультантамі крыху горш, таму што не благі геральдыст і аматар маляваць акварэлькі «известный Адольф Гитлер» скончыў самагубствам у 1945-м пераможным годзе. Але ж прэзідэнт сам просіць досканала растлумачыць яго геральдыку. Акрамя афіцыйнага конкурснага прыза чытача чакае і асабісты падарунак прэзідэнта. Не ўпускайце свой шанц!

На літары «з» мяне заела, але разумны чытач і сам можа працягнуць разгляд граняў вядучага палітыка. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ад нас шмат у чым залежыць, які стане наш прэзідэнт: будзем мы яго саромецца ці, наадварот, ганарыцца ім. Вось, напрыклад, маленькая Македонія (па плошчы з Гарадзенскую вобласьць). Яна, як і Беларусь, выйшла без крыві за межы імперыі (Югаслаўскай Федэрацыі) і ўжо прызнана незалежнай дзяржавай многімі краінамі. І гэта пры тым, што ў Македоніі амаль нічога няма, акрамя чарговых землятрусаў ды Аляксандра Македонскага ў мінулым. У адрозьненьне ад Македоніі, у нас свая нафта і соль, яшчэ значныя рэшткі незгараўшых лясоў і торфу, свае радыёнукліды ад стронцыя, цэзія, палонія ды амерыцыя, свае надзейныя шахты для стратэгічных ракетаў. Чым жа мы горш за македонцаў? Чаму ж нам не дапамагчы Аляксандру Рыгоравічу стаць Аляксандрам МАГІЛЁЎСКІМ і праславіць нас у дваццаць першым стагоддзі на ўсю планету? Га?

**З.МЯЦЁЛКІН.**

